*Папулярна-навуковыя занатоўкі*

# БЕЛАРУСКАЯ ВЕРА: PERSONA NON GRATA

З ГЭТЫМ Вялікім Княствам Літоўскім, як вядома, шмат было ўсялякіх непаразуменьняў. Беларусам адвялі сьціплую ролю непісьменных, прыгнечаных мужыкоў, зь якіх усяляк зьдзекваліся літоўскія ды польскія фэадалы-магнаты. Зацкаванаму беларусу не заставалася нічога, апроч як спаць і марыць аб тым, каб ВКЛ захапілі «нашыя» — маскоўскія, праваслаўныя, добрыя цары. У БССР гэтая расейская вэрсія да 1991 г. заставалася асноўнай. Тых нешматлікіх навукоўцаў, якія спрабавалі пярэчыць, дружна цкавалі, зухава абзываючы «нацдэмамі», «нацыянал-фашыстамі» і г. д. Тым часам нашыя нясьціплыя суседзі прысябечылі сабе ўсё і ўсіх, нават Фр. Скарыну.

Знамянальна, што ледзь сканала БССР, у кастрычніку летась у нашае Горадні адбылася ўпершыню міжнародная навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Тады ж было дамоўлена зрабіць навуковыя чытаньні штогадовымі. Сёлета, 28—30 верасьня адбылася наступная канфэрэнцыя, прысьвечаная царкве і культуры народаў ВКЛ і Беларусі XIII — пачатку XX ст. Такім чынам акрэсьліваюцца асобныя сфэры жыцьця дзяржавы і беларусам нарэшце знаходзіцца ў ёй месца, прычым зусім не сьціплае. Летувіскія калегі, напрыклад, адчуваюць сябе ніякавата, чуючы аспрэчаньні накшталт «Чаму вы называеце Сапегаў і Хадкевічаў літоўскімі магнатамі? Адкуль вы ўзялі рускае насельніцтва ў Княстве?» і г. д. Бо адказаць ім няма чаго. Старыя стэрэатыпы сёньня ёсьць анахранізмам. Праваслаўны сьвятар усю гісторыю ВКЛ і праваслаўнай царквы тлумачыць з усходніх пазіцый, а ў адказ на закіды ў прамаскоўскай арыентацыі не знаходзіць іншага «алібі», як тое, што ён — з кубанскіх казакаў.

Але мы забеглі наперад. Госьцяў з Польшчы, Летувы, Расеі, Украіны разьмясьцілі ў гатэлях «Горадня» і «Беларусь», пасьля чаго паказалі Стары горад. Назаўтра, у панядзелак 28-га яны сабраліся ў тэатры А. Тызэнгаўза. 200-гадовая камяніца, дарэчы, рэстаўруецца й пачынае набываць унутры ўласьцівы выгляд, са сцэнаў зьніклі казачныя сцэны зь Ямелямі-прасьцякамі, Іванамі-дурнямі й дзеўчынамі ў какошніках... Усе ўдзельнікі ўжо зарэгістраваліся. Падыходжу да столікаў з самавітымі шыльдачкамі: Польшча, Летува, Японія, Швэйцарыя. На жаль, японскія багасловы спадары Масару Сата і Кэйка Сата ня прыехалі. Затое не адмовіла ў запрашэньні спадарыня Моніка Банькоўская — Зульліг з Цурыха (гутарку зь ёй мы надрукуем у наступным нумары газэты). Зазіраю ў сьпісы: навукоўцы, журналісты. З прадстаўнікоў сталічнае прэсы я спаткаў аднак аднаго Вітаўта Чаропку, рэдактара часопіса «Хрысьціянская думка». Прадаюцца тры зборнікі дакладаў «Радавод»: 150 руб. для ўдзельнікаў, 200 — для ўсіх астатніх. Мне ўручаюць памяткавы кэрамічны мэдаль.

НА АДКРЫЦЬЦІ канфэрэнцыі ня было леташняй пампэзнасьці. З запрошанага начальства амаль ніхто не прыехаў. Летась нават быў даслаў віншавальную тэлеграму ажно з Аўстраліі міністр замежных справаў сп. Краўчанка. Цяпер канфэрэнцыя ад самага пачатку мела рабочы характар. Прафэсар А. Мальдзіс уручыў мэдаль Эўфрасіньні Полацкай галоўнаму каардынатару канфэрэнцыі дацэнту-гісторыку сп. Дз. Караву. Яшчэ адзін такі мэдаль ён прывез і для кіраўніка Гарадзенскае філіі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў — прафэсара Сьцяцко. Потым госьць паведаміў аб тым, што налета ў Горадні адбудзецца міжнародная канфэрэнцыя «Рым-IV» і пажартаваў зь вядомага сьцвер-



джаньня аб тым, што «Масква — трэйці Рым, а чацьвёртаму ня быць». Маўляў, Менск зрабіўся сталіцай СНД і як бы 4-м Рымам. Вось, а Горадня — другой культурнай сталіцай Беларусі...

Як вядома, пачаткова «Рым-IV» меркаваўся ў Пінску, але адрас быў зьменены праз тамтэйшых «паляшуцка-яцьвяжскіх» сэпаратыстаў. Бадай што слушна. У Горадні ёсьць што прапанаваць замежнікам: архітэктура, добрыя музэі, унівэрсітэт, яшчэ існуюць дзьве вышэйшыя навучальныя установы, гатэлі, у нас шмат навукоўцаў і краязнаўцаў, моцныя гістарычныя традыцыі, нарэшце ў горадзе за апошнія гады назапашаны вопыт правядзеньня падобных мерапрыемстваў. А што ў тым Пінску? Вылезе на трыбуну якісь местачковы палітык і пачне галаву дурыць...

Прафэсар А. Мальдзіс цікава распавёў аб тым, як дзеля пошукаў беларускай сьвятыні — крыжа Э. Полацкай — балгарскія беларусісты зьвярнулі да вядомай Вангі і яшчэ адной прарочыцы, імя якой ён не пажадаў назваць, а таксама — аб атрыманых ад прарочыц адказах. Паводле іхніх словаў сьляды крыжа будуць знойдзены да канца г. году. Што ж, пачакайма. Спадар Мальдзіс выступіў й з дакладам. Ён, у прыватнасьці, сказаў: «Калі адраджэньне хрысьціянства, духоўнасьці будзе адбывацца на Беларусі не на нацыянальнай глебе, дык гэта, што тут ўтойваць, зможа прывесьці ў будучыні да канфрантацыі, да таго, што зараз адбываецца ў былой Югаславіі. Мне здаецца, што паяднаньне хрысьціянскіх канфэсій на Беларусі можа адбыцца толькі на нацыянальнай глебе. Да таго часу, пакуль тое або іншае веравызнаньне на Беларусі будзе адстойваць, міжвольна або сьвядома, палярызуючыся, інтарэсы іншых дзяржаў і іншых этнасаў, да гэтага часу, мне здаецца, духоўнага адраджэньня на Беларусі не будзе».

Далей ён зазначыў, што пазіцыя гарадзенскай газэты «Глос з-над Немна» у гэтых пытаньнях нібы ў цэлым канструктыўная, але яго засмучаюць сьцьвярджэньні накшталт «Калі ў касьцёлах няма польскай мовы, то тады, маўляў, няма й выбару. Ну, а што тады рабіць каталікам-беларусам — хацелася б спытаць у рэдакцыі.— Яны таксама павінны мець выбар... Не натуральна, калі ў тых парафіях Гарадзеншчыны, а я іх праехаў добры дзясятак, у выключна беларускіх парафіях ёсьць выбар, вядома, у літаратуры, скажам і ў казанях, але гэты выбар такі: польская мова або руская. А чаму беларусы, карэнная нацыя, мова якіх зьяўляецца дзяржаўнай, не маюць права на свой выбар?..»

Цікавым мог бы стаць даклад прафэсара Беластоцкай філіі Варшаўскага унівэрсітэта сп. А. Садоўскага, дарэчы — вельмі працяглы, «Рэлігія і народ у сфэры памежжа». Успомніўшы нават народы Мэксікі, Бразіліі, Індыі, аўтар аднак не наважыўся закрануць насельніцтва гарадзенска-беластоцкага памежжа. Бо аналогіі напрошваюцца хутчэй з ірляндцамі, якіх крыху ўзгадаў беластоцкі вучоны. Тых самых ірляндцаў, якія, як і большасьць беларусаў, вывучаюць родную мову ў школе, але размаўляюць па-ангельску і якія ў Паўночнай Ірляндыі, адарванай ад астатняй, падзелены на каталікоў і пратэстантаў, як беларусы — на каталікоў і праваслаўных. Але сьмелы крок зроблены ня быў, й дыскусіі не адбылося.

НАЙГАЛОЎНАЯ прыкмета цяперашняй канфэрэнцыі — выбух цікавасьці да зьняслаўленай, абылганай, апляванай вуніяцкай царквы. Пры расейскай, а потым савецкай імпэрыях тэма гэтая на Беларусі была забаронена. Дазвалялася хіба, як і ўсё беларускае, паліваць вунію брудам, бо гэтага вымагалі правілы «этыкету», гэтак можна было дагадзіць Маскве, атрымаць месца каля карыта... Гарадзенскія унівэрсітэцкія навукоўцы, у прыватнасьці, даводзяць у сваіх дасьледаваньнях, што вуніяцкая царква спрыяла самавызначэньню беларусаў і захаваньню ў неспрыяльных умовах беларускай мовы (Т. Мікуліч) і давала падставы пазьней, пасьля гвалтоўнага скасаваньня вуніі, К. Каліноўскаму абапірацца ў «Мужыцкай праўдзе» на яе, як на беларускую нацыянальную, адрозную ад прапольскага каталіцтва і расейскага праваслаўя, царкву (У. Разэнфэльд і Г. Шчалбаніна). Відушчасьць нашага нацыянальнага гэроя не выклікае сумненьня. Вельмі дарэчы тут будзе ўспомніць верш Фр. Багушэвіча «Як мяне хрысьцілі ў палякі»...

Тым жа часам у іншых дакладах вельмі яскрава прасочвалася ісьціна аб пазьнейшай гісторыі праваслаўнае царквы на Беларусі, як аб чыста палітычнай барацьбе. Нас увесь час дзялілі й дзеляць да сёньняшняга дню на сфэры ўплыву Варшава й Масква. Любая хрысьціянская царква можа быць добрай для беларусаў, калі яна будзе беларускай, будзе яго кансалідаваць, а не разрываць на часткі. І сёньня гэта асабліва актуальна. Нездарма ж на канфэрэнцыі ўсчаліся вельмі гарачыя спрэчкі пасьля выступленьня Г. Сурмач зь Менску аб нацыянальна-адраджэнскім руху і праваслаўнай царкве ў Заходняй Беларусі... Калі б справа маскоўскім іярархам і іхнім стаўленікам у нас ішла аб веры, а не аб палітыцы, пытаньне магло вырашыцца элементарна: царква б стала аўтакэфальнай і беларускай. Божачкі, колькі ж чуем ляманту з прычыны сэпаратызму Украінскай праваслаўнай царквы! У чым прычына? У тым, што паслабляецца ўлада Масквы. Здаецца ж, існуе адных расейскіх цэркваў тры ці чатыры, Армянская, Грузінская, Румынская, Балгарская і г. д., існуюць аўтакэфальныя ў Польшчы, іншых краёх. Хай была б і Украінская. Заўважу: пазіцыі праваслаўя ў сьвеце ад гэтага не слабеюць, а, наадварот, узмацняюцца. Але ж мы бачым у адказ адно нянавісьць, хлусьцю, пагрозы. Значыцца, нашых маскоўскіх дабрадзеяў цікавіць ня вера, а палітыка. Дык хай жа будуць хоць спакойныя за Беларусь, якая надзейна прышпілена да ўсходняга суседа. Сьпіце спакойна, сябры.

Скончылася канфэрэнцыя сяброўскай сустрэчай у рэстаране «Беласток». Кажуць, госьці былі вельмі ўражаны беларускай гасьціннасьцю й засталіся задаволеныя побытам у Горадні.

**І. ПЯТРОЎ.**

**На здымку: удзельнікі канфэрэнцыі.**

**Фота У. ВЫДЭРКІ.**

# НАЕЗД ВЫБРАНЦОЎ

Белы сьцяг з манаграмай з дзьвюх пераплеценых літар лацінскай «W» і «S» — такі сымболь маладзёжнай арганізацыі «Выбранецкія шыхты». Група яе сяброў 19 і 20 верасьня была ў Горадні.

Дзейнасьць «Выбранецкіх шыхтоў» разнастайная: культурна-асьветніцкая, выдавецкая, камэрцыйная, бо трэба зарабляць на свае імпрэзы самім. Назва паходзіць ад традыцыі набіраць частку войска старабеларускай дзяржавы зь юнкоў, выбраных ад 20 двароў дробнай шляхты ці сялян.

Сёньняшнія «выбранцы» ўзялі на сябе абавязак зьбіраць, ратаваць і бараніць здабыткі нацыянальнай культуры як у краі, так і на этнічных беларускіх землях сумежных краін (Смаленшчыне, Пскоўшчыне, Браншчыне, Віленшчыне, у Латвіі і інш.). Збор фальклору, апісаньне помнікаў дойлідства і помнікаў, дасьледваньне фактаў далёкай і нядаўняй гісторыі, наладжваньне музычных фэстаў і народных сьвятаў — вось няпоўны пералік заняткаў «выбранцоў».

У Городню іх запрасілі скаўты. Пад час візіту выбранцы наведалі парэцкі зьвяз, дзе правялі зь дзецьмі некалькі вясёлых гадзін у сьпевах, танцах і гульнях. Другі дзень быў прысьвечаны сустрэчы з гарадзенскімі скаўтамі і знаёмству з Горадняй.

У сваёй музычна-сьпеўнай мэтодыцы «Выбранецкія шыхты» маюць адметна вызначаны стыль, як у выкананьні, так і ў падборы твораў. У прыватнасьці ў нас яны выступалі з такім рэдкім матэрыялам, як беларускі ваярскі танец і сьпеў. Пад час сваіх канцэртаў выбранцы вельмі ўдала і хутка ўцягваюць у гульні і танцы дзіцячую аўдыторыю. Калі напачатку дзеці ціснуцца па сьценах і кутках, то неўзабаве стараньнямі выбранцоў усе весяляцца разам. Сёньняшнім дзецям не стае як раз гэтага.

Варта павучыцца ў выбранцоў яшчэ аднаму: апантанай беларускасьці і непахіснай веры ў наша адраджэньне. А наладжаныя імі вандроўкі — гэта сапраўдная школа юнацкага гарту і патрыятызму.

Кіруе «Выбранецкімі шыхтамі» сп. Ігар Міхно. Вакол яго гуртуюцца разумныя хлопцы і вельмі пенкныя дзяўчаты. Шкада, калі вы ня чулі і ня бачылі іх. Але выбранцы абяцалі яшчэ раз наведаць нашу каларытную Горадню на пачатку сьнежня, каб спаткацца са студэнтамі, скаўтамі і іншымі сябрамі іх нязвыклага таленту.

**А. Д.**

SOS

# ЦІ ПАВЯЛІЧЫМ НАЦЫЮ?

Нядаўна давялося чуць размову маладых кабет. Уразіла тое, што абедзьве сяброўкі ня першы год у шлюбе і дагэтуль ня маюць аніводнага дзіцяці. На жаль, ня толькі вышэйпамянёныя асобы жадаюць быць бязьдзетнымі.

Чаму такое адбываецца з нашымі кабетамі, карэспандэнт «Пагоні» паспрабаваў распытаць галоўнага ўрача радзільнага дому ў Горадні А. А. Рамашку.

— Па-першае,— апавядае Аляксандр Аляксеявіч,— гэта адбываецца таму, што жанчыны адчулі сябе падманутымі сістэмай. Уяўляеце сабе нядаўняе: «Савецкая жанчына роўная з мужчынам і ёй адчынены ўсе накірункі дзейнасьці». Яе можна запіхваць у шахты, у мартэны, на лесаразпрацоўкі ў Сібіры. Шкада, але да гэтага жанчына прызвычаілася, прычым не без уплыву ворганаў друку, літаратуры. Успомніце «Узьнятую цаліну», гэрой якой — Нагульнаў — гатовы быў нават сам... нараджаць, калі так загадае партыя.

Вось такая прафанацыя й давяла да таго, што ў «камуністычным» грамадзтве ўсе лічыліся працоўнай сілай — матэрыялам для зьдзяйсьненьня «мировой революции». Усім падалося, што трэба толькі працаваць і выконваць дырэктывы партыі, а гома-сапіенс выгадуецца і ў лябараторыі.

**— Спадар Рамашка, няўжо ва ўсім вінавата былая сістэма?**

— Я не абвінавачваю сістэму ці кантрэтныў асобаў, бо я не праўнік, але варункі, якія стварыла сістэма для існаваньня, відавочныя, я лічу іх шкоднымі. Зразумейце: у душы сучаснай жанчыны адбыліся з-за шматгадовай дэзінфармацыі зьмены. Наша жанчына здрадзіла высакароднаму памкненьню быць маці, яна імкнецца ў шахтавы забой...

**— Вы сказалі, што нашых кабет падманула сістэма, у Вас ёсьць прыклады?**

— Прыкладаў хоць адбаўляй. Вось канкрэтны: у Горадні плянавалася збудаваць пэрыматальны цэнтр на 560 месцаў. Справа была ўзгоднена зь Міністэрствам аховы здароўя і навукова-дасьледчым інстытутам «Гіпраздраў» горада Рыгі, дзе рыхтавалася праэктна-сьметная дакумэнтацыя. Па задумцы аўтараў праэкта, гэта было звышсучаснае памяшканьне на дванаццаць паверхаў. У ім цяжарных жанчын чакалі б самыя лепшыя ўмовы захаваньня цяжарнасьці і непасрэдна нарадзінаў. Але тры гады таму ўлады адмовілі ў фінансаваньні праэкта. Абыякава сказаўшы, што для гараднянак гэта будзе занадта вялікай раскошай. Вось так аднесьліся «народныя абраньнікі» да сваёй будучыні. Ці ня іхнія «турботы» панізілі ўзровень нараджальнасьці толькі ў Горадні бадай на палову?

Наша даведка. Зараз за адны суткі ў Горадні нараджаецца 10—12 немаўлят. Для параўнаньня: у мінулым годзе іх нараджалася 24—26.

**— Што яшчэ адмоўна адбілася на колькасьці нарodзін?**

— У горадзе на некалькі тысячаў павялічылася чарга на жытло. Маладыя сем'і з трох-чатырох чалавек жывуць у маленькіх інтэрнацкіх пакойчыках, дзесяцігоддзямі чакаючы сваёй чаргі на жытло. А ўзяць рост цэнаў, гіпэрінфляцыю... Хіба няма ў гэтым віны ўчарашніх кіруючых структур, якія ў супрацьстаяньні ўсяму сьвету ільвіную долю зь бюджэту аддавалі ВПК?

**— Ці ёсьць якоесь выйсьце для беларусаў? Ці, можа, нас так і застанецца дзесяць мільёнаў?**

— Пакуль што хуткага выйсьця ня бачу, але яно адно: укладаць грошы ў разьвіцьцё сацыяльнай сфэры, будаваць жытло, шпіталі, дзіцячыя садкі, адносіцца да мацярынства зь вялікай павагай, і ўвогуле да нараджальнасьці неабходна ставіцца падзяржаўнаму. Толькі тады можна разьлічваць на пазытыўныя вынікі.

**Гутарыў Г. АСТРОЎСКІ.**

## *НАВІНЫ*

### «І ВАМ БУДЗЕ ДОБРА, І НАМ БУДУЦЬ ЦАЦКІ»

На старонках мастоўскай райгазэты «Зара над Нёманам» надрукаваны допіс дзьвюх школьніц. З асабістых назіраньняў яны зьвярнуліся да дарослых, якія узначальваюць прадпрыемствы і арганізацыі горада аб 'яднацца і збудаваць ў Мастах спецыяльны завод (можа, гучыць непрывычна), на якім вялося б аднаўленьне цацак. Тым больш, калі выкідваюцца лялькі бяз рук, бяз ног, нават бяз галавы. А чаму не пакінуць яе, як і іншыя рэчы, да пары, да часу, а потым здаць для перапрацоўкі.

Магчыма, нашы дзеці бачылі б значна менш бездухоўнасьці, жорсткасьці.

Слова за прадпрыймальнікамі.

**І. ПЯТРОЎ.**

### СОНЕЧНЫ КАМЕНЬ У БЕЛАРУСІ

**Тры з паловай кілаграмы адборнага бурштыну было знойдзена менскімі археёлагамі пры раскопках сярэднявяковага жытла ў горадзе Клецку — цэнтры старажытнага Тураўскага князьства. Скарб унікальны, а таму цікавасьць да яго вялікая. Як трапіў бурштын да сярэднявяковага залатара? Ці існаваў гандаль з балтамі ў тыя далёкія часы? На гэтыя і многія іншыя пытаньні бяруцца адказаць берасьцейскія даследчыкі бурштыну пад кіраўніцтвам прафэсара пэдагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна Альбэрта Аляксандравіча Багдасарава.**

**Праводзячы комплекс мінэралягічных і хімічных дасьледаваньняў, нашы вучоныя прыйшлі да высновы, што старажытныя злотнікі зьбіралі бурштын у мейсцах свайго знаходжаньня, так як бурштын з археялягічных раскопак па ўсіх парамэтрах адпаведны якасьцям з рачных і балотна-азёрных утварэньняў антрапагенавага ўзросту.**

**А менавіта да адлажэньняў гэтага ўзросту адносяцца шматлікія знаходкі «сонечнага камяня» у паўднёва-заходніх частках нашае рэспублікі. Не выключэньне, што скарб, але ўжо геалягічны, будзе адкрыты ў мейсцах стаянак старажытных людзей.**

### АДКРЫТЫ РЭЧАВЫ КІРМАШ

Рэчавы кірмаш, аб якім так доўга гаварылі ў Берасьці, адкрыты ў верасьні. Усё адбывалася даволі звычайна і будзённа, дарэчы, як і ўсе вялікія падзеі гісторыі.

У першы рынычны дзень на кірмашы пабывала 150 гандляроў і 2.267 пакупнікоў. Для тых, хто зьбіраецца ашчасьлівіць кірмаш сваім наведваньнем, трэба ведаць, што толькі ўваходны білет каштуе 10 рублёў, за гандаль на крытым прылаўку прадавец з Беларусі плоціць 50 рублёў, а іншых краін — 200, за гандаль на адкрытым стале — 30 і 150 рублёў адпаведна, і за гандаль з машыны — 150 і 400 рублёў.

Агульная сума ад прадастаўляемых паслуг за дзень — 30 тысяч рублёў, што для кірмашу, як паведамілі ў бухгалтэрыі рынку, будзе малавата, трэба хаця б тысяч сто.

А пакуль — з пачынам. Стаскаваўшыся па рыначнай эканоміцы, абывацель атрымаў хоць нейкую яго падобнасьць.

Вопыт варты пераймання.

**П. ЖЭБРАК,**
**кар. «Пагоні» па матэр 'ялах газэт «Вечерний Брест» і «Брестский курьер». (2.10.1992 г.).**

# ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ

**Зянон Пазьняк**
**пра Максіма Багдановіча**

Тыднёвік «ЛіМ» надрукаваў вялікі, на цэлы разварот, артыкул Зянона Пазьняка пра паездку ў Ялту на магілу Максіма Багдановіча. Кагосьці, можа, зьдзівіла, што Зянон Станіслававіч увесь такі дзеяч, такі надзьмуты ды пануры, а на самай справе ён жа й вершы піша. Але тут нічога дзіўнага. Калі чалавек жыве абсалютна нелягічна, то хутчэй за ўсё ён паэт па характару. А піша ён там што ці ня піша — гэта ўжо яго справа.

Дарэчы, ўмантаваныя ў апавядальны лад пазьнякоўскага эсэ стылізаваныя танкі ці хоку напісаныя вельмі прыстойна, узровень і тэхніка нармалёвая. Але, паўтаруся, гэта не галоўнае.

Колькі ўжо езьдзілі да тае Ялты й тае магілы! Колькі апавядалі знаёмым! Колькі пісалі ў друку! І ўсё папранейшаму — зь нейкімі дзіўнымі ідэямі... А давайце вакол чырвонай зорачкі на помніку родныя паэту блакітненькія васілёчкі падмалюем... А давайце возьмемся, раскапаем магілку ды перанясем паэтавыя костачкі, калі яны яшчэ не згнілі, на родненькую Беларусь... Першае ўжо зрабілі, другое — дзякуй Богу, яшчэ не пасьпелі. Але кожны, ад няздараў да наіўнякоў сьвятых, апавядаў гэтаксама пра дзьве рэчы: першае, што помніка зусім ня відаць, бо нешта яго закрывае, па-другое, што нідзе няма ніякіх шыльдачак, а тамтэйшыя абарыгэны таксама нічога ня ведаюць. І як гэта ўсё дрэнна...

Зь літаратуры «нашаялцінскай пары» запомніў я толькі апавяданьне Уладзіміра Арлова «Старыя кальварыйскія могілкі», напісанае з тактам і палюдзку. Але й Валодзя абурыўся на брак шыльдачак ды неўпарадкаванасьць апошняга прытулку. Скончыў жа ён толькі тым, што на лісьце наконт «пераносу», зь якім у Менску да Валодзі зьвярнулася нейкае «нацыянальнае заклапочанае дзяўчо», ён мудра прыпісаў: «калі Беларусь будзе беларускай...». Добра, што не сувэрэннай. Вось яна ўжо сувэрэнная, аж занадта... А толку з гэтага — кот наплакаў.

Канец жа пазьнякоўскага эсэ канкрэтны і ясны. Першае — пераносіць нікога нікуды ня трэба, таму што дзе хрысьціянін пахаваны, там і павінен ляжаць, дый колькі Максім быў на той Беларусі! Другое. Праблема зь нябачным помнікам вырашаецца тым, што на магіле трэба паставіць белы крыж вышынёй шэсьць мэтраў, які будзе дамінаваць над запушчанай зелянінай могілак, але не разбурыць яе, таму што белы добра спалучаецца зь зялёным. Трэйцяе. Да магілы ад цэнтра Ялты трэба дабірацца так і так. Такім вось нумарам транспарту, там вылезьці, па такіх прыступках падняцца-спусьціцца, міма такой ЛЭП ісьці, каля такой вечнай жалезнай бочкі павярнуць. Паны-адраджэнцы, прашу да Ялты...

М-да, гэта кляс... Можа, ён і кадры ня тыя падбірае, гэты Пазьняк, можа, цісьне ці занадта, ці замоцна, можа, часам і робіць памылкі, бо жывы ж чалавек, але пароду відаць. Гэты ведае, чаго хоча.

Увогуле, гэта была прадмова. А ўся рэцэнзія будзе з аднае фразы: **прыйшоў гаспадар і сказаў, што рабіць.** Адным словам, навёў парадак. І хоць у гэтым краі парадку ня было ніколі, дай яму, Божа, каб хоць троху ў яго, але атрымалася.

**А. ЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

## ЭСЭ

# КРЭСАВЯК

(Заканчэньне. Пачатак у № 8).

Каб зэканоміць час, прывяду адразу вытрымку зь ліста Ю. Мацкевіча да З. Сямашкі, надрукаванага ў варшаўскай «Вензі» — адразу будзе ясна, пра што гэта кніга, хто і за што душыў яе і яе аўтара. Пра што «ня трэба гаварыць у голас»...

«... я не прысьвяціў гэтую кнігу польскаму падпольлю. Але і абмінуць яго ня мог. Калі гаварыць пра віленскае падпольле, то я стаўлюся да яго сапраўды іначай, чым казённыя прапагандысты й каналізатары. Пра тое, што мясцовыя атрады АК былі ўзброеныя самімі немцамі, ведаў кожны паляк — але «не тшэба мувіць глосьне!»,— ведаў кожны беларус і летувіс — гэтыя гаварылі й гавораць! — гэта такая ж абсалютная праўда, як тое, што цяпер гэта абсалютна *замоўчваецца! Тут дык мы салідарныя... Сягоньня ўвогуле цяжка гаварыць пра нейкую праўду, калі тая праўда час ад часу таму ці другому аказваецца не даспадобы. Я гляджу на гэта, як на нейкую схэму, на сутнасьць часу... Гэта ж абсурд, калі немцы ўзбройваюць палякаў і летувісаў, каб тыя душылі савецкую партызанку, а тыя душаць адны другіх! Але аб 'ектыўных гісторыкаў усё менш, а тыя, хто ёсьць, паміраюць усё часьцей. Праўдай лічаць тое, што хочуць бачыць...*

*Ці ня горшая за польскую сітуацыя зь летувіскім ды беларускім бокам. Справа тут вось у чым. Каб пра нешта «сьведчыць», трэба акрэсьліць, а дзе ж ты, сьведка, быў тады сам? Альбо: прызнаць сваю адкрытую ці патаемную, але супольную работу з акупантам. А паколькі цяпер ліст напісаны ў 1970 годзе — аўт. супрацоўніцтва зь немцамі лічыцца Абсалютным Злом, то погляды пераварочваюцца на супрацьлеглыя. Даходзіць да таго, што газэта беларускіх эмігрантаў, якія ў свой час скалачвалі Беларускую Краёвую Абарону й паліцыю для барацьбы з партызанамі, пахваляецца тым, што іх Беларусь... была самай партызанцкай рэспублікай! Тое ж датычыць і маіх добрых знаёмых, летувісаў і беларусаў, якія ня хочуць мяне бачыць, таму што ня сьмеюць ілгаць мне проста ў вочы. Аказваецца, дарэчы, што шаўлісы не забілі ў Вільні ніводнага яўрэя, а змагаліся зь немцамі за незалежнасьць Летувы... Тое ж датычыцца расейцаў. Іх тэарэтык з НТС Казанцаў напісаў, што «уласаўцы», аказваецца, не біліся на нямецкім баку пад Кіевам і на Одэры, не душылі Варшаўскае паўстаньне, не ахоўвалі канцлягеры, не стралялі партызанаў і не палілі вёскі! Яны, аказваецца, толькі змагаліся зь немцамі за незалежнасьць Расеі... Таму вось і злуюць на маю кніжку і палякі, і беларусы, і расейцы, і летувісы...».*

*Забойчы ліст.*

*IX.*

*Прайшло дваццаць два гады. А паколькі цяпер, як напісаў бы Ю. Мацкевіч, сітуацыя мяняецца на супрацьлеглую, то супрацоўніцтва з Саветамі лічыцца абсалютным злом, і адпаведна таму мяняюцца погляды, перапісваюцца ўспаміны, паўстае новая «праўда»...*

*Спадар К. Акула з Канады ўсё жыцьцё пакутаваў, што бальшавіцкая прэса яму «нафашысьціла», абліла брудам... Так то так, але вось чытаю яго ўспаміны ў «Зважай». І што? А зноў тое самае! Маршыруюць беларускія хлопцы з БКА ў нямецкай форме праз польскую вёску, адзін пытае: — Матка, гдзе ту воды се напіць? — Там, сынку... А там у бочцы не вада, а смала! Ах, гадкія, абураецца аўтар, ах, гадкія шавіністы, як ненавідзяць яны нас, беларусаў...*

*Ненавідзяць, можа, і ненавідзяць, але як адказваць хлопцу ў нямецкім мундыры, які пытаецца па-польску і ў якога на ілбе нічога не напісана пра яго нацыянальнасьць? ! І потым — мала там, што і калі з кім было, але калі ўсё жыцьцё абураешся, што табе дарэмна «фашысьцяць», то навошта самому пісаць тыя ж, па сутнасьці, успаміны?! Дзе логіка? — як абураецца адзін зь цяперашніх парлямантарыяў...*

*То ўсе пагалоўна АК-оўцы былі раней «здраднікамі» ды «фашыстамі». То цяпер усе пагалоўна раптам зрабіліся «гэроямі»: па-за немцамі яны, адказваецца, мухі не пакрыўдзілі.. . Ах , ах, высокі кляс... Аказваецца, не атрад АК прыйшоў летам 1940 году ў Скідаль, выразаў прысланы райком, а заадно пабраў у «тутэйшых» добрыя лупы, прыхапіў з сабой дзесяць смаркачоў для парадку, каб пана не забывалі — і шлёпнуў іх на Котры. Аказваецца, гэта не майго роднага дзядзьку Анатоля Зелянкоўскага пад абрыў ставілі, не яму куля паміж галавой і кепкай прайшла, не ён ад страху прытомнасьць згубіў, не ён ноччу дахаты прыпоўз і тыдзень у гарачцы ляжаў. Ня можна, «не позволяму»... А можна яму толькі ў 1942-м у нямецкай пятлі павіснуць — то ж немцы, акупанты! І то, як так пойдзе далей, то яшчэ невядома: дзядзька ж не ў СМБ быў, а ў камсамоле, не за немцаў ваяваў, а супраць іх...*

*Але дзе там! Калі пан Мацкевіч, «велькі пісаж», у пані Варшавы цяпер як «здрайца» праходзіць, то куды ўжо мне, правінцыялу цёмнаму, хаму крэсоваму, месца сваё хамскае забыўшаму... Так і жывем.*

*IX.*

*Паміж XIX і XX стагодзьдзямі стары сьвет на гэтай зямлі зьнік і паўстаў новы. Ідыліі тыпа адносінаў палякі Ажэшкі зь беларусам Багушэвічам альбо лёсу сямейкі Іваноўскіх скончыліся. Няма ні той Польшчы, ні тых палякаў. Мілаш-менш напіша нешта людзкае ды путнае пра гэта крэсовае жыцьцё толькі ў парыскай «Культуры». У Варшаву, Вільню ды Менск шлях яму заказаны. І ўспрымаецца ён, як выкапень. Ужо ў падсьвядомасьці нейкае зьдзіўленьне: паляк, а які разумны...*

*А ён проста з другога сьвету. Са сьвету, якога болей няма, пра які дарэмна марыць, які небясьпечна блытаць зь сягоньняшнім днём.*

**А. ЧОБАТ.**
**Верасень, 1992.**

## ЛІТАРАТУРНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

**А. САКОВІЧ**

# У НЯВЕДАМ'Е

(Працяг. Пачатак у № 7—8)

11

Уначы цяжкім гулам загулі самалёты. Цяжка накладаваныя, яны кудысь ляцелі. Здавалася, што як ніць, збамбуюць места Н. Ванда не адважылася застацца ў хаце: яна паслала сабе й дачцы пад дрэвамі. Прыйшлі ў сад і ейныя суседзі — стары доктар із жонкаю.

Ноч была такая цёплая, што Ванда засталася ў лёгкай летняй сукенцы, нават не накінуўшы хусткі, што ляжала побач яе на разасланай на траве коўдры. Яна сядзела, абаперышся аб камель старое рассахатае яблыні. Паклаўшы галоўку на ейныя калены, заснула малая Аленка — Ялінка, як звалі яе ўсе.

Дарослыя ня спалі: ціха гутарылі, напружана прыслухоўваліся. Зацемненае места было поўнае незвычайнымі гукамі. Палахліва й таямніча ўспрымалася ўсё навокал. Адусюль чуліся шолахі, далёкія выбухі бомбаў, грукат артылерыі. Вайна. Страшным і пагрозьлівым здавалася ўсё, нат свой родны заросьлы сад.

— Мы ўчора ля Слонімскае вуліцы партызана бачылі, — гаварыла Ванда. — Стуль блізу ўсе выехаўшы. Мы зь Ялінкаю ідзём, а на нас — якісь п'яны. Мы хацелі перайсьці на другі бок вуліцы, а ён як гыркне: «Стой! Ато страляць буду». Мы сталі. Ён падыйшоў бліжэй і кажа мне: «Убегаеш, паразітка, парцізана баішся?» — і наверх гадка вылаяўся.

— Эмблемы надыходзячага савецкага дабрабыту й культуры, — з прыціскам гіроніі ў голасе перабіў доктар.

— Даяцё веры? Тае часіны я гэта самае падумала. Ён вылаяўся й пайшоў. А я стаю, хачу йсьці — ногі ня служаць. Ялінка зьбялеўшы, ручка ў маёй руцэ дрыжыць. Думаю: о, Божа, памажы нам ад іх уцячы. Але разам з тым рушыць у няведам 'е, аднэй зь дзіцём... Аднэй... — голас у яе задрыжэў, яна змоўкла.

— А ваш брат? Яго апошнімі днямі штось зусім ня відаць. Дзе ён дзяецца?

— Казік ня едзе. Ён у тэй групе батальёнцаў, што тут у падзямельлі застаюцца. Дый Тамара ня едзе, гэта яго таксама, думаю, вяжа. Нічога ня зробіш, першае каханьне, а яно, здаецца, заўсёды наймацнейшае. Надоечы ж камандзер батальёну пасылаў яго ў Ліду для сувязі. Толькі сяньня пад вечар вярнуўся, дадому на часінку заскочыў. Казаў, каб я зь Ялінкай заўтра ўвечары была гатова выехаць, Сяргей Малаха дае каня й воз.

— Дык гэта ваша апошняя ноч дома?

— Выходзіць, што так. Апошняя й вельмі цяжкая. Нялёгка пакінуць родны дом, магілы бацькоў, аднаго Казіка... Мо й Міхась якім цудам вернецца, ды ўжо ня знойдзе нас зь Ялінкаю.

— А можа выйсьці йначай, — ласкава азвалася доктарава жонка. — Вунь, кажуць, што шмат хто з нашых, на Сібір вывезеных, у польскае войска трапілі. Недзе цяпер зь немцамі б 'юцца. Узімку Кунцэвічы з Агельшчыны праз Чырвоны Крыж ад сына ліст мелі. Мо й ваш ужо ня ў Сібіры. Яшчэ можаце спаткацца.

— Аб Кунцэвічу я чула, але не даю веры, што й нам такое шчасьце выпадзе. Апошнімі гадамі я развучылася верыць і думаць пра лепшае. Здаецца, чакае цябе яшчэ горшае.

— Што праўда, то праўда, — сказаў доктар. — Даліся нам у знакі апошнія гады. Бр... як жа ня хочацца апынуцца йзноў у краі пабудаванага сацыялізму. У шчасьлівым краі, дзе ўсё такое дасканалае. Дарэчы, Ванда, вы ўчора аднаго дасканалага на Слонімскай бачылі... — І Ванда, і доктарава жонка ціха засьмяяліся.

— Вось мы сьмяёмся, — сказала Ванда, — але трагэдыя ў тым, што доля наша будзе залежыць якраз ад іх.

— Ад іх і такіх палітычных прастытутак, як наш Ковель. Вунь ужо сяньня мая жонка яго ля нашае вуліцы спаткала.

— Ковеля? — зьдзівілася Ванда.

— Яго, Вандачка. Ён бадай не зьмяніўся, хіба ў плячох пашырэўшы. Але не прывітаўся. Мо не пазнаў, а мо не жадаў пазнаць. Толькі што мяне зьдзівіла, бы ён у нямецкай форме зь бел-чырвона-белай адзнакай нашага бытальёну.

— Чаму ж гэта Ковель у Н., калі ў месцы яшчэ немцаў поўна. Каму-каму, а яму небясьпечна, — дзівілася Ванда.

— Авантурысты, зь небясьпекаю забаўляецца, — адказаў доктар.

Доктарыха была добрая жанчына. Ёй прыкра было, калі аб кім брыдка гаварылі, пагатоў аб Ковелю, што некалі тут жыў у падсуседзях дый вырас на іхніх вачох.

— Вось ты ўжо залішне на яго: людзі зь Вялікае Слабады кажуць, што ён і не такі ўжо нягодны ды ці раз і зь біды выбаўляў. А хіба мала нашых людзей мусяць з бальшавікамі, з партызанамі гэтым часам разам быць?

— Э, гэта вялікая розьніца. Часам людзі вымушаныя быць, а ён сам у гэты бруд палез.

— Палез і мо сам ня рады, хто яго ведае. Фантастык ён заўсёды быў, гэта яго й губіць. Памятаю, як яму было год 14, пажартавала я, што ён да беларуса не падобны: валасы чорныя, вочы цёмныя, сам смуглявы, а ён мне расказаў, што ў іхнім родзе з матчынага боку ёсьць італьянская кроў. Быццам прадзед ягоны італьянцам быў і з французкім войскам праз Бярозу адыходзіў, цяжка захварэў і ў Беларусі застаўся, пабраўшыся зь дзяўчынай, што яго адратавала. Так хораша расказваў, што я дала веры. Потым матка ягоная даведалася аб гэтай гісторыі, пасьмяялася: «Вы майго Севу паслухайце, — казала, — ён і гішпанскую кроў у нашым родзе знойдзе».

— Ведаеш , даражэнькая, калі дзіця фантазуе — гэта забаўка, але калі чалавек і ў трыццаць год свае фантазіі не цураецца — гэта ўжо шкодна.

Ванда сядзела моўчкі й не далучалася да спрэчкі. Яна заглыбілася ў свае ўспаміны. Было гэта год 10 уперад. Зыркі маразяны дзень. Яна з Ковелем на іртах у лесе. Зашаранелы казачны лес. Ванда ведала, што праз усё жыцьцё яна не забудзецца на ягоны твар, блізка схілены да ейнага, на ягоныя вясёлыя карыя вочы з пабялелымі ад марозу брывамі й вейкамі, на ягоныя халодныя вусны на сваіх. І тады быў пах хвоі, сьцюдзёная празрыстае паветра, бліскучы сьляпісты сьнег, зыркае сонца й гэтае зьзяньне радасьці ў грудзёх першага пацалунку. А потым за колькі месяцаў Ковель пайшоў да Саветаў. Былі аб ім розныя чуткі: партыйны, рэдагуе газэту, але ніхто пэўнага нічога ня ведаў. І толькі два гады таму зьявіўся Ковель зноў блізка Н. на чале партызанскага аддзелу. «Авантурысты», — з болем думала яна.

— Што гэта вы, Ванда, змоўклі? Сьпіце? — папыталася доктарыха.

— Не, я думала аб тым, што мне няможна ў Н. заставацца, — адказала першае, што прыйшло на думку, Ванда.

— І думаць ня трэба, а як мага барджджэй, пакуль ня позна, трэба ратавацца, бо грахоў, паводле бальшавіцкае этыкі, шмат маеце. Настаўніца ў часе нямецкае акупацыі, жонка высланага на Сібір інжынера, колішняя студэнтка ў Гэйдэльбэргу — досыць, каб абвясьціць нямецкай шпіёнкай...

— А нам, думаеш, даручыць, што за немцамі ў месцы ў шпіталі застаўся? — перапыніла яго жонка.

— Ну, даражэнькая, я ўжо застары ў лес ісьці. Нат застары, каб цяпер разам зь людзьмі ад іх уцячы. Можа заб 'юць, можа павесяць. Усяго можна спадзявацца. Не такі страх. Ужо стары. Жыцьцё пражыта сумленна.

Доктар змоўк. Маўчала й Ванда. Апошнія трывожныя дні, бяссонныя ночы даліся ў знакі: не хацелася гаварыць. Яна зморана зачыніла вочы. Прачнулася, калі хтось пацісну трос за плячо. Адчыніла вочы й спалохана зноў зачыніла: у сьвятле месячнай ночы бачыла блізка схілены над ёю твар Ковеля. «Мо гэта толькі сон?» — падумала Ванда, але раптам ізноў адчула, як ягоная моцная рука сьціснула плячо.

— Ванда! — шаптаў ён. — Прачніся. Толькі не разбудзі старых: яны не павінны мяне тут бачыць.

— Чаго табе трэба? — таксама шэпталася яна, глянуўшы на яго суровымі сьцюдзёнымі вачыма.

— Пільная справа, — ціха адказаў ён. — Пайшлі ў хату, там даведаешся.

— Я не магу пакінуць тут дачку.

(Працяг будзе).

## МОСТ МІРУ ШРЫ ЧЫНМОЯ

Аўтапераход беларуска-польскае мяжы «Варшаўскі мост» ад гэтага часу стаў называцца Міжнародным мастом міру Шры Чынмоя.

Каардынатар міжнародных сувязей Камітэта Міру Шры Чынмоя Нікунья Эбнер, якая прыбыла на ўрачыстасьць, паведаміла, што гэты «Мост міру Шры Чынмоя» — адзін з 500 помнікаў міру на планеце Зямля, сутнасьць іх — натхняць кожнага члена чалавечай сям 'і на захаваньне міру і згоды ў паўсядзённым жыцьці».

Высьветлілася і наступная дэталь: Шры Чынмой, гэты вялікі міратворац з Індыі, сустракаўся з лідэрамі шматлікіх дзяржаў, у тым ліку — гэта было 29 мая 1990 года — з былым прэзідэнтам былога СССР Міхаілам Гарбачовым. Да Беларусі ён не даехаў, не было яго і на Варшаўскім мосьце.

Гонар і пашана індыйскаму міратворцу. Але ж няўжо ў беларусаў няма дастойных імёнаў? Хаця, як сказалі пагранічнікі, мост гэты для іх Варшаўскім так і застанецца, ня стане менш і праблем на мытні.



## ПОЛЬСКІ ПЛЯН

*Своеасаблівы плян адбудовы Барысаглебскай царквы ў Горадні прапанавалі польскія рэстаўратары. Яны радзяць зруйнаваць храм да падмурка, а затым узьвесьці яго наноў.*

*Цікава, як паны зьбіраюцца захаваць царкву вернікам у першасным выглядзе? Бо сьцены яе маюць свой будаўнічы сакрэт. Так, звычайныя каменьні, якія на першы погляд абыякава ўмураваны ва ўнутраны інтэр 'ер, на самой справе выконваюць вельмі істотную ролю. Страдаўнія майстры пры ўзьвядзеньні царквы адмыслова зпраэктавалі купал. Промні сонца, праходзячы праз яго, так пераломваліся, што іх сьвятло трапляла на кожны камень, ствараючы ў прысутных утульную, спакойную аўру...*

*А. Г.*

## КВАТЭРЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

Узьвядзеньне жылога мікрараёна для сем 'яў ваеннаслужачых хутка пачнецца ў ваколіцах гарпасёлка Рось Ваўкавыскага раёна. Праўда, весьці яго будзе не турэцкая фірма «ЭНКА», а гарадзенскія будаўнікі сумесна са спэцыялістамі з Германіі.

У пастаяннае карыстаньне Слонімскай КЭЧ пад будаўнічыя работы райвыканкам выдзяліў 30 гэктараў зямлі. 27,5 гэктара яе да гэтага былі ва ўладаньні калгаса «Савецкая Беларусь». Каля васьмі гэктараў сельгасугоддзяў названай гаспадаркі забіраюцца часова, на два гады. На іх плануецца размясьціць будаўнічую базу.

**Пётр ЖЭБРАК.**

### ЛЮДЗКІЯ СУСТРЭЧЫ

## ПАН ЛЕШАК

У перапоўненай зале гарадзенскай мытні людзі праседзелі амаль тры гадзіны. Была ноч, хацелася спаць, піць, а тут і нагі не павернеш. Нарэшце, пагранічнікі адчынілі дзьверы і папярэдзілі, што чакаць яшчэ давядзецца на вуліцы, пакуль падрыхтуюць цягнік. Мы ехалі ў Польшчу.

Побач за мной на пэроне апынуўся сталы чалавек. У адной руцэ ён трымаў торбу і ўвесь час спрабаваў тлумачыць нешта мажнай жанчыне, якая важна трымалася каля вялікіх кайстраў і ня вельмі зьвяртала ўвагу на старога. Казаў ён ня гучна, але я разабраў, што гэта па-беларуску з польскім акцэнтам. Раптам яму стала дрэнна. Я прапанаваў сваю дапамогу і запытаў у людзей якога парашка...

Калі ён нарэшце ўмясьціўся на чужую кайстру і павольна ўздыхнуў, я пацікавіўся, навошта яму такія пакуты — як бадзяцца па цягніках, тым больш у нашай краіне. Ён павесялеў і паказаў мне сваю пустую торбу, пры гэтым іранічна дадаў сваім сіплым голасам: — «Няўжо я падобны да гандляра?»

Пан Лешак у свае семдзесят гадоў рэдактар новай газэты ў Беластоку, якая, дарэчы, цалкам прысьвечана эканамічным стасункам Польшчы з нашай рэспублікай.

Усё сьвядомае жыцьцё прайшло ў журналістыцы. Ваяваў, пры камуністых за свае погляды сядзеў за кратамі, ад пачатку «Салідарнасьці» — у яе шэрагах. За доўгія складаныя гады жыцьця страчана здароўе, зьнешне выглядае зусім квола, але ўнутраныя сілы ўсё ж ёсьць. Так, ён не падобны да людзей, якія ў гэтую ноч былі побач з намі.

Пан Лешак узрадаваўся, што сустрэў калегу, просіць называць яго проста Лешак, бо так прынята ў нашым асяродку, нягледзячы на ўзрост.

Мне няёмка перад старым чалавекам, што мы сядзім тут пад адкрытым небам, што побач ходзяць пагранічнікі і даглядаюць нас, як які-небудзь статак, што паўсюдна пра нейкае глупства балбочуць людзі, абставіўшыся вялізнымі кайстрамі.

Ён тлумачыць мне, што на Беларусь ён прыехаў наладжваць неабходныя для працы сувязі, ды і недзе з-пад Клецка яго маці, і ён добра памятае мясьціны, ведае беларусаў і хоча, каб гэта краіна хутчэй адрадзілася.

Пагранічнікі даюць дазволісьці да цягніка. Божа, што робіцца... Ляцяць адзін праз аднаго, чапляюцца сваімі вялікімі кайстрамі, падаюць, крычаць... Сапраўды, усё гэта нагадвае статак.

Я трымаю пана Лешака пад руку і нясу дзьве маленькія торбы — яго і сваю. Мы абыходзім людзей з боку.

## ГАМЛЕТ

Мне добра сьпіцца ў цягніку, а да Масквы толькі адна раз правадніца — добрая цётка, не сварыцца, просіць мяне, потым прынесла гарбаткі.

Я ўстаю, але бачу, што зьверху яшчэ нехта ляжыць. Падсеў уначы. Мой сусед па купэ грузін, ён едзе зь Менску. Даведаўшыся, што я не з Масквы, дастае пляшку гарэлкі і кажа, што будзем піць за маю краіну. Я адмаўляюся, а ён настойвае.

На Беларусі Гамлет, так завуць суседа, упершыню. Распавядае, што яму тут вельмі спадабалася, асабліва людзі. Калі ён ехаў сюды машынай праз Расею і Украіну, паўсюдна яго спынялі міліцыянты або рэкэціры: і тыя і другія вымагалі грошы. І толькі на Беларусі пачуў сябе чалавекам, нават машыну запраўляў за дзяржаўны кошт. Шкадуе, што ніколі ня быў тут раней...

У Грузіі зараз вайна, людзі забіваюць адзін аднаго, а ў Гамлета вялікая сям 'я. Ён накупляў сваім дзецям у нас на Беларусі адзеньня, падарункаў жонцы і бацькам і яшчэ мае цэлы хобсьць грошай, якім абвязваецца каля паясьніцы.

Я пытаюся, калі скончыцца гэтая вайна ў Грузіі. Але ён не жадае нават пра гэта ўзгадваць, адно ўпэўнены ў тым, што калі ніхто ня будзе да іх умешвацца, дык хутка яна і скончыцца.

Мы ўсё ж выпілі па пяцьдзесят грамаў, пасьнедалі, а праз паўгадзіны разьвіталіся ў Маскве на Беларускім вакзале.

**Г. Т.**

## З КРЫМІНАЛЬНАЙ ХРОНІКІ

**1.**

**Па традыцыі студэнты Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэта пачынаюць навучальны год на палетках Астравецкага раёна. Аднак заробак на бульбе па сёньняшніх часах, відаць, не зусім запаўняе пустыя студэнцкія кішэні. Два чацьвертакурсьнікі П. Маркоўскі і А. Карпейчык вырашылі кампэнсаваць свае матэрыяльныя цяжкасьці: сярод белага дня на аўтавакзале ў мястэчку Астравец яны адабралі ў васьмікласьніка тутэйшай школы дыплямат з асабістымі рэчамі.**

**Цяжка ўявіць, што зараз носяць школьнікі ў сваіх вучнёўскіх торбах, але каб затрымаць студэнтаў, маёру міліцыі Жукоўскаму давялося зрабіць тры стрэлы ў паветра.**

**2.**

**Бум з каляровымі мэталамі, здаецца, ня мае ніякіх межаў.**

**Уначы з 30 верасьня на 1 кастрычніка невядомыя скралі медны звон вагой каля 160 кг з званарні Сьвята-Уладзімерскай царквы ў Горадні.**

**3.**

**Якая, скажыце, жанчына ня марыць вяртацца пасьля цудоўнай вечарыны ў рэстаране разам з мужным, адважным, адзіным назаўсёды мужчынам.**

**Але што тыя мары... У Ленінскі РАУС Горадні зьвярнулася нідзе не працуючая А. Р. Зелянкевіч з заявай, што каля 23 гадзін побач з домам № 3 па вуліцы Курчатава яе пабіў незнаёмы хлопец, які і праводзіў яе з рэстарана «Радуга». Ды і пабіў так, што яна страціла прытомнасьць. А раніцай агледзела, што з рукі згінулі пяць залатых пярсцёнкаў.**

**4.**

**У нецьвярозым стане з нажавым раненьнем у жываце прывезла хуткая дапамога нейкага В. Багданава ў чацьвёртую гарбальніцу. На якія-небудзь пытаньні хлопец адказваць адмовіўся, а дачакаўшыся зручнага моманту, з бальніцы ўцёк.**

**5.**

**А сёмай гадзіне вечара разагнаў свой «Палянэз» грамадзянін Рэспублікі Польша Вальдэмар Сініцкі ў Горадні па вуліцы Вясеньняй, але не спадзяваўся, што дарога можа рэзка паварочваць. Якраз на самым закругленьні Вальдэмар не справіўся зь кіраваньнем, выехаў на кветнік і «Палянэз» перакуліўся.**

**Кіроўца знаходзіцца ў шпіталі.**

**6.**

**30 верасьня супрацоўнікамі міліцыі ў Горадні затрыманы дзьве аўтамашыны зь Летувы, багажнікі і салёны якіх былі перапоўнены каляровымі мэталамі.**

**У час разбору ў службовым габінэце Ленінскага РАУС адзін з летувісаў, жыхар Коўні, даў хабар у 50 даляраў ЗША опэрупаўнаважанаму ОБЭП Ленінскага РАУС, лейтэнанту міліцыі, які на службе ў ворганах МУС з 1987 г., а на займаемай пасадзе з жніўня 1991 г.**

**7.**

**Надакучыла В. Гладкаму з Карэліцкага раёна і В. Якімовічу са Шчучыншчыны лячыцца ад алкаголю у ЛТП-5 г. Наваградка. Да таго ж і лячэньне ў такіх установах, як правіла, прымусовае. Відаць, адчулі хлопцы, што дні стаяць пагодныя, а на вёсцы такі час, як кажуць: дзень год корміць. Прыкінулі, што да чаго, ды і ўцяклі бульбу капаць, праўда, нікога аб гэтым не папярэдзілі. Давялося шукаць іх міліцыі.**

**8.**

**Цёмным вечарам а 19 гадзіне каля дома № 5 па вуліцы Камарова у Горадні супрацоўнікамі міліцыі была затрымана майстар машыннага аддзяленьня мясакамбіната Е. Н. Якубоўская. Зь мясакамбіната спэцыялістка па машынах вынесла 13,6 кг балыка коштам 4420 рублёў.**

**А кажуць, балыкі ў крамах не прадаюць, бо на мясакамбінаце нібы не хапае нейкага абсталяваньня для іх вырабу.**

**М. М.**

**Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына».**

Наша газэта ёсьць БЕЛАРУСКАЙ ТРЫБУНАЙ, адкрытай для выказваньня розных пунктаў гледжаньня, розных аўтараў зь любых краін, гарадоў і вёсак. Меркаваньні аўтараў публікацый не заўсёды могуць супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

**Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ.**

Індэкс 63124.
Выходзіць штодватыдні па пятніцах.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня, 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Тыраж 2000 асобнікаў. Замова № 4160
Нумар падпісаны да друку 8.10.1992 г. у 17.00